

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995 МАЙ 31 СЕРАДА

№ 78/1007

Цана 200 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### МІНСК НАВЕДВАЕ МІСІЯ МВФ

30 мая ў Мінск прыбыла місія Міжнароднага валютнага фонду. Як паведамілі ў беларускім прадстаўніцтве МВФ, гэты візіт экспертаў фонду мае дзве асноўныя мэты. Першая — збор разнастайнай эканамічнай інфармацыі з мэтай прадастаўлення статыстычных даных пра Беларусь кіраўніцтву МВФ. Другая мэта — магчымае аднаўленне перамоваў з беларускім урадам па выдзяленні рэспубліцы крэдыту stand-by (у памеры 250-300 мільёнаў долараў ЗША).

Візіт місіі працягнецца да 16 чэрвеня, у яго праграму ўваходзяць рабочыя сустрэчы з кіраўніцтвам шэрагу міністэрстваў і ведамстваў Беларусі, а таксама перамовы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром і кіраўніком Нацыянальнага банка Станіславам Багданкевічам.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### НА ЛЕТНІ ГРАФІК РУХУ ЦЯГНІКОЎ

У ноч з 27 на 28 мая на Беларускай чыгунцы ўведзены летні графік руху цягнікоў. З просьбай пракаменціраваць яго карэспандэнт звярнуўся да начальніка аддзела пасажырскай службы чыгункі **Юрыя РАДЗЬКО.** — Звычайна з надыходам лета пасажырапаток на чыгунцы рэзка ўзрастае, і мы вымушаны былі ўводзіць дадатковыя цягнікі на самыя «гарачыя» накірункі, камплектаваць іх вагонамі, што стаялі ў адстоі. Цяпер жа мы не ўводзім, а адмяняем цягнікі, каб не везці «паветра». Так, у летнім раскладзе вы не знойдзеце цягнікоў N 306 «Мінск — Бранск», N 935 «Львоў — Ліда», N 213 «Вільнюс — Мінск». Адменены некалькі цягнікоў маскоўскага накірунку: N 23 «Каўнас — Масква», N 17 «Масква — Вюнсдорф», N 135 «Масква — Калінінград». Не будуць курсіраваць цягнікі з Мінска і Магілёва ў Сакулку. Тлумачыцца гэта проста: знізіўся паток «карабейнікаў» у Расію і Польшчу. Чыгунка заўсёды была своеасаблівым барометрам змяненняў, што адбываюцца ў грамадстве. Як толькі было абвешчана аб зняцці мытных бар'ераў, рэзка павялічыўся паток пасажыраў з Расіі. Зараз з Масквы на цягнікі беларускага напрамку ўзяць білеты не вельмі проста. А вось цягнікі, што ідуць у паўднёвым накірунку, асабліва ў Крым, з-за нестабільнай палітычнай сітуацыі па-ранейшаму ідуць паўпустымі. У сувязі з гэтым пасажырская служба была вымушана цягнікі N 342 «Мінск — Адэса» і N 10 «Мінск — Навурасійск», якія зімой курсіравалі праз дзень, назначыць у новым раскладзе праз чатыры дні. Давялося ўнесці змяненні і ў маршрут цягніка «Гомель — Рыга»: з-за дарагоўлі літоўскай візы (каля сямі долараў) гэты цягнік цяпер ідзе, мінуючы Літву. Напярэдадні пераходу на новы графік разглядалася магчымасць адкрыцця новых маршрутаў: «Гродна — Саратаў» і «Калінінград — Чалябінск», але пакуль гэтае пытанне не вырашана. З ростам цэн на білеты на чыгунцы ў многіх знікае жаданне да перамены месцаў на час летніх адпачынкаў. Не па кішэні...

Святлана ЮЗІК.

### КОРАТКА

29 мая ў Мінску пачала работу трохдзённая сесія Савета Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук, у якой удзельнічаюць прэзідэнты нацыянальных акадэмій навук Грузіі, Малдовы, Туркменістана, Кыргызстана, Арменіі, Казахстана, Украіны, Расіі, Літвы і Беларусі.

З кароткім уступным словам да ўдзельнікаў сесіі звярнуўся віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч.

З агляднымі дакладамі выступілі прэзідэнты акадэмій навук Беларусі і Расіі Леанід Сушчэня і Юрый Осіпаў.

У той жа дзень удзельнікаў сесіі прыняў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

***

**Мінскі энергацэнтр еўрапейскага саюза прадставіў у Брусель чатыры заяўкі на распрацоўку праектаў на агульную суму 4,5 мільёна рублёў.**

**Як паведаміў судырэктар Энергацэнтра Уладзімір Кузьміч, тэматычная накіраванасць заявак адлюстроўвае, перш за ўсё, інтарэсы рэспублікі. Адна з іх прысвечана цеплатэхнічнай рэабілітацыі жылых і адміністрацыйных будынкаў, тры іншыя — стварэнню дэманстрацыйных энергаэфектыўных установак. Зацікаўлены ў распрацоўцы праектаў Міністэрства адукацыі і навукі, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і Камітэт па энергазберажэнні і энерганагляду. Брусельскі тэндэр — конкурс энерга- і рэсурсаэфектыўных праектаў — будзе праведзены ў верасні.**

***

Індэкс спажывецкіх цэн за тры тыдні мая склаў 103,4 працэнта.

Аб гэтым паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу. Цэны на тавары і паслугі ўзраслі на 3,4 працэнта, у тым ліку на харчовыя тавары — на 2,8, на нехарчовыя — на 4,9, на паслугі — на 2,3 працэнта.

Зноў падаражалі мука і вырабы з яе. Напрыклад, мука вышэйшага гатунку цяпер абыходзіцца пакупніку на 5,6 працэнта даражэй, чым у пачатку месяца. Затое знізіліся цэны на марожаную рыбу (на 4,8 працэнта), курыныя яйкі (на 5,1 працэнта) і сухое малако (на 17,1 працэнта). Наўрад ці парадуе бацькоў рост цэн на дзіцячыя фруктовыя кансервы (на 21,7 працэнта) і дзіцячыя калготкі (на 24,6 працэнта). На 10,2 працэнта павялічыліся расцэнкі на рамонт жаночага абутку.

Тым, хто ў пачатку лета плануе пайсці ў адпачынак, трэба мець на ўвазе, што ў маі на трэць падаражалі пуцёўкі ў дамы адпачынку. Для аўтатурыстаў навіна больш прыемная: патаннеў бензін. Праўда, пакуль толькі на 1,5 працэнта.

***

**У Першамайскім раёне беларускай сталіцы прайшлі вучэнні часцей грамадзянскай абароны, якімі кіраваў начальнік гарадскога штаба ГА палкоўнік Анатоль Срыбны. Падчас вучэнняў быў адпрацаваны шэраг уводных, у тым ліку ліквідацыя наступстваў радыёактыўнага забруджвання тэрыторыі горада ў выніку аварыі на Ігналінскай АЭС, а таксама ліквідацыя наступстваў аварыі на Мінскім маргарынавым заводзе.**

**ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ «ДОБРАГА ВЕЧАРА»**

*У наступным нумары нашай газеты будзе змешчаны расклад руху прыгарадных цягнікоў са станцыі «Мінск-пасажырскі» на летні перыяд.*

### ВЫСТАВЫ

### МЭБЛЯ — ДЛЯ ЛЮБОЙ ПАТРЭБЫ

**Учора ў Палацы спорту (пр. Машэрава, 4) пачалася першая міжнародная выстава «Мэбля-95».**

Сорак восем экспанентаў з Беларусі, Літвы, Латвіі, Малдовы, Італіі, Эстоніі, Германіі, Польшчы, шэраг сумесных прадпрыемстваў дэманструюць на ёй самую разнастайную мэблю — для кватэр, дамоў і леціішч, грамадскіх і службовых памяшканняў, а таксама фурнітуры, дэкаратыўныя элементы і г.д.

Важнасць гэтай выставы для беларускіх вытворцаў несумненная — буйныя мэблевыя фабрыкі перажываюць сёння не лепшыя часы. Канкурэнцыя на рынку мэблі ў рэспубліцы ўзрастае. Таму, каб апярэдзіць канкурэнтаў, выйсці на замежны рынак, патрэбна абнаўляць асартымент, паляпшаць дызайн, тэхналогіі вытворчасці. Нездарма на выставе НВМА «Мінскпраектмэбля» праводзіць семінары на гэтыя тэмы. Як паведаміў галоўны інжынер гэтага аб'яднання Яўген Іосіфавіч Пухальскі, у канцы мінулага года беларускія вытворцы мэблі сутыкнуліся з цяжкасцямі са збытам. Так, напрыклад, у былым СССР Беларусь выраблялa 85 назваў, або 40% неабходнай школьнай мэблі. Пры раней існаваўшым планавым размеркаванні шмат якая беларуская мэбля не трапляла ў многія рэгіёны Расіі, рэспублікі Балтыі, Сярэднюю Азію. Сёння — гэта перспектыўныя рынкі яе збыту. Таксама, як і далёкае замежжа. На яго, дарэчы, ужо выйшлі Бабруйская мэблевая фабрыка, завод «Альмагор» ВА «Гарызонт», які прадае ў Германію куфэркі. За малымі формамі, якія ствараюць інтэр'ер, на думку дызайнераў, вялікія перспектывы. Малыя формы дазваляюць больш рацыянальна выкарыстоўваць плошчы жылля або офіса.

Дададзім, што беларуская мэбля не толькі прыгожая, але і цалкам адпавядае строгім еўрапейскім экалагічным патрабаванням, а таму — канкурэнтаздольная, нічым не горшая за вядомую італьянскую або германскую.

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 31 мая 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БЕЛБАЛТИЯ | 11500* | 12000 | 7900* | 8500 | 2 | 2.3 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11500* | 12000* | 8000* | 8600* | 1.8* | 2.5* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11500* | 12000* | 8000* | 8600* | 2* | 2.6* |
| ТЕХНОБАНК | 11400 | 11850 | 7800 | 8250 | 2.15 | 2.4 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11500 | 11900 | 8100 | 8500 | 2.22 | 2.36 |
| ПРИОРБАНК | 11400 | 11900 | 8150 | 8550 | 2.25 | 2.7 |
| СБЕРБАНК | 11250 | 11950 | 7600 | 8250 | 1.8 | 2.3 |
| ОЛИМП | 11500* | 11800* | 7887* | 8340* | 2.2* | 2.45<br>2.23** |
| ФК "Вероника"*** | 11700* | 11880* | 8200* | 8500* | 2.27* | 2.35* |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 11400* | 11900* | 8000* | 8300* | 2.2 | 2.35* |
| "ИНТЕК" | 11700* | 12200* | 8200* | 8550* | 2.20* | 2.5* |
| ДУКАТ | 11500* | 11950 | 8000 | 8600 | 2 | 2.6** |
| МинскКОМПЛЕКСБАНК | 11430<br>11640** | 11950<br>12000** | 8153<br>8303** | 8500<br>8630** | 2.25 | 2.5 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11500 | 11900 | 7900 | 8400 | 2.1 | 2.4 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11450 | 11850 | 8100 | 8450 | 2.15 | 2.35 |
| ЭЛИТБАНК | 11450 | 12100 | 7900 | 8500 | 2 | 2.4 |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11400* | 11900* | 8000* | 8300* | --- | --- |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11600* | 11900 | 8350* | 8560 | 2* | 2.4 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11300 | 12000 | 7800 | 8400 | 1.7 | 2.4 |

* Возможна операция за наличный и безналичный расчет

** Операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8273.38 | 2.25 |
|---|---|---|---|

### КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

### САМАЗАБОЙЦАЎ ПАБОЛЬШАЛА

Як паведамілі ў аддзеле дэмаграфічнай статыстыкі Мінстата, за мінулы год у рэспубліцы ад забойстваў загінулі 1092 чалавекі, скончылі жыццё самагубствам 3153 (у 1993 годзе адпаведна 1082 і 2886).

Прычым, у разліку на 100 тысяч чалавек насельніцтва больш за ўсё прыходзіцца самазабойцаў-мужчын — 54, а самазабойцаў-жанчын — 10. Спецыялісты «вылічылі» таксама і тое, што часцей за ўсё моцны пол пазбаўляе сябе жыцця ў 50-59 гадоў, прыгожая палова — калі ёй ужо за 70. У гэтым годзе толькі за першыя тры месяцы ахвярамі забойстваў сталі 337 чалавек, а добраахвотна развіталіся з жыццём 693 жыхары.

Наталля ВАЛАКІДА.

ГАРАЧАЯ ХРОНІКА

## КАМВОЛЬШЧЫКІ ДАМАГЛІСЯ СУСТРЭЧЫ З ПРЭЗІДЭНТАМ

**29 мая каля трохсот рабочых акцыянернага таварыства «Мінскі камвольны камбінат», не дачакаўшыся адказу на накіраваны да Прэзідэнта каля дзесяці дзён таму ліст, у якім прасілі звярнуць увагу на бядотны стан прадпрыемства, пікетавалі рэзідэнцыю кіраўніка дзяржавы. Пікетчыкі, большасць якіх складалі жанчыны, прынеслі свой ліст да Прэзідэнта і запатрабавалі асабістай сустрэчы з ім.**

Ліст рабочых быў перададзены, і першай рэакцыяй на яго стала з'яўленне перад будынкам рэзідэнцыі начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна, які запэўніў, што кіраўніку дзяржавы паведамілі пра патрабаванне рабочых камвольнага камбіната і ён зможа з імі сустрэцца. Потым да пікетуючых выйшаў памочнік Прэзідэнта па асобых даручэннях Віктар Кучынскі, якому рабочыя пералічылі свае праблемы: затрымкі зарплаты, вымушаныя прастоі і адпачынкі, выдача зарплаты натурай, нават цвікамі і малаткамі без ручак. Выслухаўшы жанчын, В.Кучынскі выклаў свой падыход да вырашэння праблем прадпрыемства: «Кіраўнікі, якія ставяцца да сваіх людзей як да быдла, павінны на працягу 24 гадзін пакідаць свае працоўныя месцы». Ён таксама выказаўся за неабходнасць правядзення праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці камбіната па лініі Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта з прыцягненнем прадстаўнікоў працоўнага калектыву, а таксама заклікаў шукаць унутраныя рэзервы для выхаду з крызісу. У канцы размовы памочнік Прэзідэнта папрасіў выклікаць да месца падзей прэзідэнта АТ «Мінскі камвольны камбінат» Віктара Берднікава, што неадкладна было зроблена.



Перад з'яўленнем кіраўніка дзяржавы адзін з супрацоўнікаў аховы Прэзідэнта, прадэманстраваўшы ў перавернутым выглядзе карэспандэнту БелаПАН сваё пасведчанне, паведаміў прысутным журналістам і фотакарэспандэнтам аб тым, што здымаць сустрэчу рабочых з А.Лукашэнкам забаронена. Пазней, падчас размовы Прэзідэнта з рабочымі, яго ахова запатрабавала ад карэспандэнта БелаПАН спыніць запіс на дыктафон, матывуючы гэта нежаданнем ствараць прэцэдэнт для падобных высвятленняў адносін з кіраўніком дзяржавы ледзь не на прыступках яго рэзідэнцыі рабочымі іншых беларускіх прадпрыемстваў.

Сам жа Аляксандр Лукашэнка, які з'явіўся перад рабочымі ў суправаджэнні аховы, адразу ж агарошыў апошніх сваёй заявай, што яны будуць мець з ім справу як рабочыя недзяржаўнага прадпрыемства: камвольшчыкі так не лічылі, бо толькі 17 працэнтаў акцый АТ «Мінскі камвольны камбінат» належаць працоўнаму калектыву, астатнія — Міндзяржмаёмасці. Увогуле ж у размове з рабочымі і кіраўніком АТ Прэзідэнт цалкам перахапіў ініцыятыву. У прыватнасці, ён запытаўся аб тым, думаў ці не працоўны калектыў, што рабіў, калі прыватызаваў прадпрыемства. Прэзідэнт таксама прыгразіў В.Берднікаву, што апошні адкажа за тое, што «ўцягнуў людзей» у гэтую справу і «паспяхова» яе праваліў. Апошні паспрабаваў абараняцца, гаворачы аб непамерных падатках і неабароненасці айчынных вытворцаў, аднак тут жа быў «пастаўлены на месца» Прэзідэнтам. Аляксандр Лукашэнка паабяцаў разабрацца з сітуацыяй на месцы, папрасіўшы запланаваць яму на гэты тыдзень наведванне прадпрыемства. Акрамя таго, па словах Прэзідэнта, адпаведным службам, у тым ліку, Камітэту па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання, будзе дадзена даручэнне разабрацца ў дакументах праведзенай некалькі гадоў таму прыватызацыі камбіната і высветліць законнасць пабудовы яго кіраўніцтвам гаражоў і катэджаў.

Хоць сустрэча праходзіла мірна, прыкладна ў ста пяцідзесяці метрах ад месца яе правядзення, насупраць будынка Цэнтральнага Дома афіцэраў, стаяў невялікі аўтобус, у якім знаходзіліся салдаты. Унутры аўтобуса карэспандэнт БелаПАНа заўважыў шчыт, які з'яўляецца часткай амуніцыі супрацоўнікаў аховы правапарадку і выкарыстоўваецца імі для вядомых мэтаў у вядомых выпадках.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.

Фота Белінфарм.

З НАГОДЫ

## МІКОЛА СТАТКЕВІЧ: «Я ЗДОЛЬНЫ АБАРАНІЦЬ СВОЙ ГОНАР»

Некалькі тыдняў таму Беларускае тэлебачанне двойчы паказала фільм рэжысёра Азаронка «Ненависть: дети лжи», у якім я і Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, якое я маю гонар узначальваць, прадстаўлены як паслядоўнікі фашыстаў. Мне і маім сябрам была нанесена страшэнная абраза. Гэты фільм паглядзелі мая сям'я, мой бацька, на вачах якога паліцаі ў вайну забілі майго дзеда, паглядзелі мільёны беларусаў.

Я не надта спадзяюся на абарону свайго гонару з дапамогай правасуддзя, бо цудоўна разумею, у якіх умовах яно зараз працуе. Але подласць, хай і зробленая па заказу, не павінна заставацца беспакаранай. Таму я асабіста сустрэўся з Азаронкам і разабраўся памужчынску — даў яму апляуху. Думаю, што гэта якраз тое, што ён заслугоўвае. Відавочна, такі крок быў нечаканым для заказчыкаў фільма, якія чакалі нейкіх іншых дзеянняў, каб потым скарыстаць іх супраць усіх патрыятычных сіл. Таму яны пачалі кідацца ад адной трактоўкі гэтай апляухі да супрацьлеглай. То на нагі падымаецца крымінальны вышук Мінска і праз агенцтва «Інтэрфакс» распаўсюджваецца і перадаецца па радыё «жахлівая» гісторыя пра тое, як Статкевіч разам з двума «драбамі» па-зверску збіў беднага рэжысёра на вачах цяжарнай жонкі. То праз газету, якой кіруе паплечнік Азаронка па Славянскаму сабору «Белая Русь», распаўсюджваецца паведамленне аб перамозе рэжысёра над Статкевічам...

Не ведаю, якую версію яны прымуць за аснову. Але хацеў бы, каб ведалі ўсе, хто мае дачыненне да гэтага бруднага фільма і хто плануе займацца такімі справамі ў далейшым: я і мае сябры здольны абараніць свой гонар.

ТАБЛО ГАИ

## ЭКСПЕРТИЗОЙ — ПО НАРУШИТЕЛЯМ

**Владимир ТРОФИМЕНКО, старший инспектор ГАИ УВД Мингорисполкома.**

Обстановка на дорогах за прошедшую неделю, увы, оптимизма не внушала. Количество происшествий здесь было отмечено даже больше, нежели обычно. **В 23-х авариях ранено 27 человек и 1 погиб.** 6 сбитых пешеходов находилось в нетрезвом состоянии, у 4-х водителей, виновников аварий, голова тоже была затуманена парами спиртного.

Начавшаяся с 22 мая, в преддверии летних каникул, операция «Внимание, дети!» тоже не дает пока утешительных результатов. Четверо подростков оказались в лечебных учреждениях. В двух случаях водители, боясь наказания, скрылись с мест происшествий. Так 25 мая на ул.Руссиянова неустановленной автомашиной была сбита пятиклассница Протько Анна. Водитель Р., работник ассоциации «Ронас», оперативно задержан сотрудниками ГАИ. Несколькими днями раньше найден П., служащий ПКФ «БИАР», совершивший наезд на десятилетнего Голуба Дмитрия.

Низкий уровень дисциплины участников движения, поверхностное знание водителями дорожных правил все чаще становятся причинами аварий. И количество их неукоснительно растет. «Первую скрипку» тут как всегда ведут владельцы индивидуальных транспортных средств.

Меры, применяемые по обеспечению порядка и безопасности на дорогах, к сожалению, не отвечают сложившейся ситуации. Радикального влияния на укрепление транспортной дисциплины они не оказывают. Поэтому УВД Мингорисполкома совместно с рядом организаций и ведомств проведет комплекс дополнительных мероприятий для наведения порядка на дорогах. К этой работе будут привлечены всевозможные силы и средства милиции и общественности.

Особо отмечу такой факт: сотрудникам Госавтоинспекции будет дано право направлять водителей на экспертную проверку знаний Правил дорожного движения при установлении следующих нарушений:

-- проезд перекрестков на красный сигнал светофора;

-- несоблюдение требований о предоставлении преимущества в движении;

-- превышение установленной скорости движения на 20 и более км/час;

-- совершение в течение года трех и более нарушений.

ФЕСТЫВАЛЬ

## «ГОЛАС ДЗЯЦІНСТВА»

Сёлета ўжо ў пяты раз запар упраўленне культуры Мінгарвыканкама ладзіць у нашым горадзе Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці «Голас дзяцінства». Гэты міжнародны дзіцячы форум збірае пад свае крылы дзяцей амаль што з усіх бакоў свету.

На гэты раз удзел у фестывалі бяруць прадстаўнікі Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі, Балгарыі, Румыніі, Германіі, Італіі. Для гэтых удзельнікаў арганізатары падрыхтавалі разнастайную і, спадзяёмся, цікавую праграму.

Па-першае, кожны калектыў з-за мяжы будзе сустракаць беларускі калектыў-спадарожнік, які будзе знаходзіцца побач іншаземцаў і суправаджаць іх падчас знаходжання ў Мінску. Па-другое, тут маем прапанаваць фестывальную праграму.

1 чэрвеня ў Міжнародны дзень абароны дзяцей у 15.00 у Палацы моладзі адбудзецца адкрыццё фестывалю і прэзентацыя калектываў-удзельнікаў. На наступны дзень удзельнікі і нашы калектывы-спадарожнікі будуць з 12.00 паказваць свае фестывальныя праграмы ў Палацы моладзі. 3 чэрвеня іншаземныя і нашы калектывы выступяць за горадам у дзіцячых лагерах, дзе таксама наладзяць забаўляльны спорт-уік-энд, а 4 чэрвеня з 11.00 пачнецца апошні дзень фестывальных мерапрыемстваў дзеяй у абарону экалогіі на пл.Незалежнасці. У 12.00 з плошчы па пр.Ф.Скарыны адбудзецца карнавальнае шэсце да Цэнтральнага дзіцячага парку імя М.Горкага, дзе з 13.00 па самы вечар адбудуцца гала-канцэрты, закрыццё фестывалю, вогнішча сяброўства і, канешне ж, развітальная дыскатэка.

Чакаем Вас на фестывалі!

Кантактны тэлефон: 21-74-97.

Ул. АНЦІПОВІЧ.

